# Забытая слава

## Кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі

**(Працяг. Пачатак у №№ 34—36).**

Чарговая, трэцяя па ліку вайна пачалася ўжо ў 1506 годзе, калі Васіль III кінуў на край два шматтысячныя злучэнні, якія пустошылі Беларусь па Бярэзіну. У 1508 годзе ён прыслаў маскоўскія палкі пад Бабруйск на дапамогу здрадніку князю М. Глінскаму, каб на гэты раз зваяваць Беларусь супольна з бунтаўнікамі. Разам яны аблажылі Менск і адсюль рабілі спусташальныя рэйды ажно да Слоніма. Толькі з'яўленне К. Астрожскага, які ўцёк з маскоўскага палону, змусіла 30-тысячную армію непрыяцеля адступаць да Воршы, а пасля, збаяўшыся бітвы, і зусім пакінуць межы Беларусі. Восенню 1508 года маскоўскі манарх падпісаў новае пагадненне аб міры з Вялікім княствам Літоўскім. Аднак ізноў нядоўга трываў без вайны.

Ужо на лета 1512 года стала вядома, што вялікі князь маскоўскі рыхтуе чарговую інтэрвенцыю разам з нямецкім Ордэнам. Восенню галоўныя сілы Васіля III аблажылі Смаленск, а іншыя палкі пайшлі на Воршу, Друцк, пустошылі край ажно да Менска і Віцебска. Не авалодаўшы Смаленскам, але страціўшы падчас аблогі нямала жывой сілы, маскоўскі ўладар адвёў войска, а летам 1513 года распачаў новую наступальную кампанію. На гэты раз у дапамогу яму Святая Рымская імперыя прыслала сваю пяхоту і артылерыю. Разам пад Смаленскам зграмадзілася каля 30 тысяч ратнікаў. Але смаленцы настолькі мужна адбіваліся, што Васіль III праз колькі месяцаў мусіў зняць безвыніковую аблогу. Трэці смаленскі паход быў прызначаны на лета наступнага года. Маскоўская дыпламатыя разам з імператарам Максімільянам утварылі ваенную кааліцыю з сямі дзяржаў супраць Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай. У Маскве хаўруснікі вырашылі пасля перамогі падзяліць заваяваныя абшары: Васіль III забраў бы беларускія і ўкраінскія землі, а Максімільян I — польскія.

80-тысячнае войска прыйшло пад Смаленск у ліпені 1514 года і пачало няспынны абстрэл горада з 300 гармат. Праз колькі тыдняў абаронцы з палаючых умацаванняў папрасілі спыніць абстрэл, а яшчэ па якім часе згадзіліся капітуляваць на льготных умовах. Акрыленыя поспехам маскоўскія ваяводы паспяшаліся ўглыбкі Беларусі. Страта галоўнай фартэцыі на ўсходзе ашаламіла Вялікае Княства Літоўскае. Пасля Смаленска паддаліся Мсціслаў, Крычаў, Дуброўна.

Войска Вялікае Княства — каля 35 тысяч — толькі падыходзіла да Бярэзіны. Ваяводы Васіля III, маючы больш чым двайную перавагу ў сіле, вырашылі даць генеральную бітву, каб цалкам разграміць харугвы К. Астрожскага і тады ўжо гаспадарыць у зусім безабаронный краіне. Яны зграмадзіліся за Дняпром, на беразе рачулкі Крапіўны, што паміж Воршай і Дуброўнай. На досвітку 8 верасня 1514 года перад імі з'явіліся шыхты войска К. Астрожскага. Пачалася бітва, ад якой залежаў гістарычны лёс беларусаў ды іншых народаў Вялікага Княства Літоўскага.

Гетман найвышэйшы, род якога паходзіў з Турава-пінскіх князёў, бліскуча скарыстаў сваё тактычнае майстэрства і дазвання разграміў агромністую армію Маскоўскай дзяржавы. Гэтая перамога стала абаронай суверэнітэту краіны. Святая Рымская імперыя адмовілася ад ваеннага блоку з Масквой, і ўвесь небяспечны альянс развальўся. Пра перамогу К. Астрожскага над Масквой уведала ўся Еўропа. Яе святкаваў сам папа рымскі, а імператар Максімільян стаў абаронцам інтарэсаў Вялікага Княства Літоўскага на Захадзе. У 1518 годзе, пераконваючы магістра нямецкага ордэна не дапамагаць Маскве весці захопніцкія войны, ён напісаў: «Цэльнасць Літвы (чытай — Вялікага Княства Літоўскага) карысна для ўсёй Еўропы, магутнасць Масковіі — небяспечная». Славутая бітва на Крапіўне ўвайшла ў еўрапейскія хрэстаматыі па ваеннай гісторыі як узор перамогі малалікага войска над колькасна пераважаючым ворагам. А на Беларусі Аршанскую бітву апявала гістарычная народная песня, услаўлялі летапісцы. Гетмана К. Астрожскага называлі Сцыпіёнам, Ганібалам, а ягоных ваяроў параўноўвалі са славутымі македанянамі.

Вайна цягнулася яшчэ 8 гадоў, але маскоўскія ваяводы ўжо не здолелі дамагчыся поспеху. Хоць, праўда, і Вялікае Княства не змагло вярнуць Смаленска. У 1522 годзе ў Маскве была падпісана дамова аб 5-гадовым замірэнні.

Мір ледзь-ледзь вытрымліваўся. З боку Маскоўскай дзяржавы ўжо праз два гады ўрываліся аддзелы ратнікаў і рабавалі край — каля Мазыра, Рэчыцы, Чачэрска, Крычава, з'яўляліся ажно за Дняпром. Вялікі князь Жыгімонт пратэставаў супраць сістэматычнага парушэння мяжы, еўрапейскія краіны таксама заклікалі Маскву да спакою.

Пасля смерці ваяўнічага Васіля III беларуска-літоўскае гаспадарства паспрабавала сілай забраць назад землі, захопленыя Маскоўшчынай у папярэдніх войнах. Яно ўльтыматыўна запатрабавала ад Масквы вярнуць Севершчыну і Смаленшчыну. Калі ж атрымала адказ, вялікі князь Жыгімонт у жніўні 1534 года скіраваў адно войска на Смаленск, другое — на северскія гарады. Але наяўных сілаў было замала, каб дамагчыся значнага поспеху. Лепш падрыхтаваная, мабілізаваўшая на вайну ці не ўвесь свой патэнцыял, Маскоўская дзяржава кінула на Беларусь тры арміі — ад Пскова, Смаленска і Старадуба. Абмінуўшы гарады і замкі, яны дайшлі ажно да Браслава і Навагрудка, рабуючы і спальваючы, забіваючы і хапаючы ў няволю. Тады на лета Вялікае Княства правяло новую наступальную кампанію: вызваліла Гомель, затым іншыя гарады, заняло ўсю Северскую зямлю. Але маскоўскія ваяводы ізноў ударылі па Беларусі — пустошылі Полаччыну, Падняпроўе. Войска Вялікага Княства пакінула занятыя землі і вярнулася, затрымаўшы за сабой адзін Гомель. У 1537 годзе дайшло да падпісання пяцігадовага замірэння. Толькі Гомель і быў вернуты Беларусі.

На гэты раз спакой на межах Беларусі з Маскоўскай дзяржавай патрываў даўжэй — некалькі дзесяцігоддзяў. Тая перадышка стала зацішшам перад вялікай бурай. Маскоўшчына рыхтавалася да новых захопаў, і разам з сілай раслі яе апетыты: цяпер нават Віленшчына і інфлянты ўжо абвяшчаліся «вотчынай» маскоўскіх уладароў.

У 1558 годзе першы маскоўскі цар Іван IV Грозны распачаў вайну з нямецкім ордэнам, каб заняць узбярэжжа Балтыйскага мора. Магістр ордэна Кетлер папрасіў дапамогі ў еўрапейскіх дзяржаў, аднак уступіцца за інфлянты пагадзілася толькі Вялікае Княства Літоўскае. Так дайшло да чарговай вайны паміж Маскоўшчынай і беларуска-літоўскай дзяржавай. Ужо на пачатку 1562 года царскія палкі спустошылі Мсціслаўшчыну, ваколіцы Шклова, Воршы, Віцебска, а праз год сам цар з 60-тысячным войскам прыйшоў і аблажыў Полацк. Маленькая полацкая залога два тыдні мужна адбівалася, але драўляныя ўмацаванні гарэлі, а дапамогі чакаць не было адкуль: гетман Мікалай Радзівіл меў пад рукой толькі тры з паловай тысячы вершнікаў. 15 лютага Полацк мусіў здацца. Пад акупацыяй апынулася амаль уся паўночная Беларусь. І хоць у студзені 1564 года на полі каля вёскі Іванск, што пад Улаю, 10-тысячны корпус М. Радзівіла дазвання разбіў 30-тысячнае маскоўскае войска, Вялікае Княства Літоўскае заставалася ў складаным становішчы. Акупанты нішчылі землі, выводзілі ў палон насельніцтва (толькі з Полацка — больш за 11 тысяч), а выбіць іх з Беларусі ды іншых тэрыторый не хапала сілаў. Гэта было ці не галоўнай прычынай таго, што Вялікае Княства Літоўскае пагадзілася аб'яднацца на канфедэратыўнай аснове з Польскім каралеўствам. Так у 1569 годзе была ўтворана новая дзяржава — Рэч Паспалітая. Аб'яднаныя сілы за 1579 і 1580 гады вызвалілі Полацк, выгналі акупантаў з усіх раёнаў Беларусі і прымусілі Івана Грознага падпісаць у 1582 годзе мірнае пагадненне, якое юрыдычна замацоўвала безвыніковасць агрэсіі. Так, за XVI стагоддзе ў беларускай гісторыі з прыкладна 40 ваенных гадоў каля 35 выпала на войны з Маскоўскай дзяржавай. І пад час амаль кожнай з іх тэатрам ваенных дзеянняў была Беларусь. Тым не менш народ не толькі вытрымаў гэтае жорсткае выпрабаванне на жыццяздольнасць, але яшчэ і высока ўзняў сваю гаспадарку і культуру. На Беларусі з'явіліся першыя з усходнеславянскіх друкарняў, на старабеларускай мове друкаваўся Статут Вялікага Княства Літоўскага — адзін з найбольш дасканалых кодэксаў феадальнага права Еўропы, а вырабы беларускіх рамеснікаў карысталіся попытам далёка за межамі краіны.

Пачатак XVII стагоддзя азначыўся новым працяглым канфліктам з Маскоўскай дзяржавай. У 1604 годзе магнаты і шляхта Рэчы Паспалітай скарысталі падтрымку маскоўскага баярства і ажыццявілі паход на Маскву. Беларусь стала плацдармам ваенных дзеянняў. У 1607 годзе пачаўся другі паход на Маскву, а ў 1609 — кампанія па вяртанню Смаленска. Вярнуўшы гэты горад, войска Рэчы Паспалітай у 1610—1612 гадах валодала самой Масквой і прымусіла ў 1618 годзе царскі ўрад падпісаць пагадненне аб замірэнні, паводле якога Вялікаму Княству Літоўскаму былі вернуты Смаленск, Чарнігава-Северская зямля, гарады Дарагабуж, Мажайск, Вязьма. Так этнічна беларускія землі ўз'ядналіся з асноўнай тэрыторыяй краіны.

Але ўжо ў 1632 годзе маскоўскі ўрад ізноў парушыў замірэнне і кінуў войска на ўсходнюю і паўночную Беларусь. Галоўнай мэтай гэтай вайны быў захоп Смаленска, але, скарыстаўшы зручны момант (у Рэчы Паспалітай якраз памёр манарх), царскія ваяводы паспелі пагаспадарыць і ў іншых раёнах Беларусі: захапілі Невель, Себеж, Сураж, Друю, Мсціслаў, Крычаў, спрабавалі здабыць Полацк. Невялічкая залога Смаленска (2—3 тысячы) гераічна вытрымала аблогу 32-тысячнай маскоўскай раці. Калі ў смаленцаў скончыліся боезапасы і хлеб, ім дапамагалі жыхары Магілёва, якія забяспечвалі абаронцаў порахам, кулямі, усім неабходным. А на восень 1633 года да Смаленска прыйшла нарэшце вайсковая дапамога. У хуткім часе ўся маскоўская армія была акружана і — капітулявала. Такое буйное паражэнне царскіх ваяводаў клала канец вайне. Увесну 1634 года абодва бакі падпісалі замірэнне на 20 год, якое пакідала нязменнымі ўсходнія межы беларуска - літоўскай дзяржавы.

Задоўга да канца вызначаных 20 год замірэння царскі ўрад пачаў актыўную падрыхтоўку да вялікай інтэрвенцыі. За мяжой агромністымі партыямі закупалася зброя, вербаваліся вайсковыя кадры, у самой Маскоўскай дзяржаве ўтвараліся новыя палкі. І калі ў 1654 годзе царскія ваяводы рушылі з войскам на Беларусь з трох напрамкаў, абараніцца не было як: маскоўскай арміі, якая з украінскімі казакамі налічвала 100 тысяч, супраць стаяла войска Вялікага Княства ў 10 тысяч ваяроў...

**(Працяг будзе).**

## РАДЫЁ

**22 лютага**

Апошнія паведамленні: 6.00, 7.50, 15.00, 20.00, 23.00.

7.00—ранішні канцэрт. 7.25—вершы Ю. Кузняцова. 8.00 — «Суботнім ранкам». Музычна-публіцыстычны выпуск. 9.15 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». Праграма «Радыёкантакт». 10.15 — «На курыных лапках». Літаратурна-забаўляльная перадача. 11.00 — «Фальклор». Радыёклуб. 11.30 — «Сямейнае радыё». (ЗША). 12.00 — «Увайсці ў кожны дом». 13.00 — «Для вернуючых і няверуючых». 13.30 — «Філантропы». Хроніка міласэрных і дабрачынных спраў. 13.40 — «Чалавек. Аўтамабіль. Дарога». 14.15 — «З любоўю да роднага слова». Пісьменнік Ф. Янкоўскі аб мове. 14.40 — «Наша радыёбібліятэка». М. Гайдук. «Трызна». Апавяданне. 15.15 — канцэрт. 16.05 — «Сябрына». Радыёклуб для падлеткаў. 17.30 — праграма «Спадчына». 18.00 — перадачы абласнога радыё. 19.45 — вячэрняя казка. 20.00—«Дзень нашага жыцця». 20.30 — «Вячэрнія зарніцы». 21.00 — «Музычная пошта». 22.00 — «Паўгадзіны з меламанам». 22.30 — канцэртная праграма. 23.10 — «Апладысменты». Музычная праграма.

## НАДВОР'Е

**21 лютага**

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі невялікі снег. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 7—9, Гомелі — 6—8, Мінску — 5—7, Гродна — 4—6, Брэсце — 3—5 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак: 22-га пераважна без ападкаў, 23-га — уначы па захаду, удзень на большай частцы тэрыторыі снег, тэмпература паветра 22-га ўначы — 13—18, удзень — 4—9, 23-га ўначы — 6—11, па ўсходу да 16-ці, удзень — 2—7 градусаў марозу.

Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.






Галоўны рэдактар У. Б. НАРКЕВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.*

ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ: член рэдакцыйнай калегіі Іван Бараноўскі, першы намеснік адказнага сакратара Яўген Ляхаў, старшы карэктар Ала Сабалеўская.

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.*

*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Тыраж 81.098. Індэкс 63.850. Зак. № 37. Выходзіць 250 разоў на год. Нумар падпісаны ў 21.05.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12


## ЧЫСЦІНЯ І ПАРАДАК — ВАША ВІЗІТНАЯ КАРТКА

### Як даглядаць аконнае шкло і люстэркі

* **Аконнае шкло ў пакоях і на кухні** заўсёды павінна быць чыстым. Ад гэтага залежыць не толькі асветленасць, але і ў нейкай меры тэмпература ў памяшканні. Аконнае шкло рэкамендуецца перыядычна праціраць мяккай шарсцяной анучкай, злёгку змочанай ільняным маслам (яго можна купіць у магазіне мастацкіх фарбаў), а затым насуха выціраць сухой шарсцяной або баваўнянай тканінай ці прамакальнай паперай. Зручныя для гэтых мэт і спецыяльныя сурвэткі для чысткі шкла.

* **Чысціць аконнае шкло** рэкамендуецца ў неспякотнае і бязветранае надвор'е, бо ў яркі сонечны дзень і на ветры шкло сохне вельмі хутка і на ім пасля чысткі могуць з'явіцца разводы.

* **Перад чысткай аконнага шкла** рамы і падаконнік трэба працерці мяккай анучкай, каб зняць пыл, а ў выпадку неабходнасці іх старанна мыюць.

* **Для мыцця аконнага шкла,** рам і падаконнікаў (апрача выпускаемых прамысловасцю прэпаратаў «Свет», «Нітхінол» і інш.) прымяняюць звычайны нашатырны спірт (на 1 літр вады 2 сталовыя лыжкі спірту). Гэтым растворам анучкай або губкай мыюць шкло, рамы і падаконнікі, а затым выціраюць іх чыстай тканінай, якая не пакідае на шкле слядоў, або пакамечанай газетнай паперай.

* **Калі шкло забруджана не моцна,** яго можна мыць растворам крухмалу ў халоднай вадзе (1 сталовая лыжка на 1 літр вады).

* **Моцна забруджанае шкло** можна вымыць растворам хлорнай вапны (50 грамаў на 1 літр вады).

* **Стары і надзейны сродак** для чысткі шкла —парашкападобны мел або зубны парашок. 2—3 сталовыя лыжкі мелу добра перамешваюць у шклянцы вады, змочваюць анучку і праціраюць ёю шкло з абодвух бакоў. Калі шкло высахне, яго праціраюць сухой мяккай тканінай або паперай да поўнага зняцця мелу.



* **Хутка ачысціць замёрзлае аконнае шкло** можна моцным растворам кухоннай солі ў халоднай вадзе (2 сталовыя лыжкі солі на 1 шклянку вады). Гэтым растворам праціраюць шкло да таго часу, пакуль з яго не сыдзе лёд, пасля чаго шкло выціраюць сухой мяккай тканінай.

## ЯК БЫЦЬ ПРЫГОЖАЙ

### Вам, дзелавыя жанчыны

**У апошнія гады ўсё часцей узнікае пытанне: ці можа і ці павінна жанчына-кіраўнік карыстацца дэкаратыўнай касметыкай, духамі, насіць моднае адзенне, ці патрэбна ёй так ужо старанна сачыць за сваім выглядам. Здавалася б, як можа быць інакш?**

Але ў 30—50-я гады гэтае пытанне вырашалася не на карысць жанчыны. Лічылася нават, што жанчына-дырэктар павінна «забіваць» у сабе ўсе жаночыя якасці, ніколі не ўсміхацца, быць антымоднай, насіць туфлі без абцасаў, доўгія сукенкі пры модзе на кароткія ці наадварот — кароткія, калі мода падказвала, што адзенне павіннна быць больш доўгім. На шчасце, гэта ўжо ў мінулым. Сучасная жанчына заўсёды і ва ўсім павінна заставацца жанчынай, а жанчына-кіраўнік павінна быць узорам для сваіх калег не толькі ў пытаннях навукі ці вытворчасці, але і знешняга выгляду, бо добрая ўсмешка, сціплая элегантнасць — гэта, перш за ўсё, памяркоўнасць і добры густ.

Макіяж дзелавых жанчын павінен быць лёгкім і няяркім. Колер скуры — светлы, лепш гэтага дабіцца з дапамогай рассыпной пудры, таму што тон праз гадзіну-паўтары пасля нанясення на твар збіраецца і падкрэслівае маршчыны. Бровы не павінны быць цямнейшымі за валасы. На павекі наносяцца цені светла-блакітнага колеру. Губная памада светлая. Румянамі лепш не карыстацца наогул, ці нанесці і старанна растушаваць сухія румяны светлага тону, якія адпавядаюць тону губной памады.

Колер валасоў максімальна набліжаецца да натуральнага ці на 1—2 тоны святлейшы. Сівым валасам можна надаць прыгожае адценне.

### Сакрэты вечнай маладосці

**Каб заўсёды застацца маладой, ТРЭБА:**

1. Мала есці. 2. Часцей есці рыбу. 3. Піць пабольш вады.



4. Займацца спортам. 5. Як мага больш хадзіць. 6. Дыхаць свежым паветрам. 7. Дастаткова спаць. 8. Больш смяяцца. 9. Захаваць тонкую талію. 10. Нарадзіць дзіця ў 40 гадоў. 11. Падарожнічаць. 12. Стаць маладой і прыгожай бабуляй. 13. Любіць жыццё.

**І НЕ ТРЭБА:**

1. Пераядаць. 2. Ужываць алкаголь. 3. Шмат курыць. 4. Сядзець дома. 5. Глядзець гадзінамі тэлевізар. 6. Аддавацца змрочным думкам. 7. Крыўдзіцца на акружаючых. 8. Апранацца ў цёмныя тоны. 9. Насіць звышвысокія абцасы. 10. Губляць пачуццё гумару. 11. Лаяць маладых. 12. Баяцца новага. 13. Эканоміць пачуцці.

### Любімыя духі

Роданачальнікам духоў лічыцца адэкалон. З Іспаніі ён перабраўся ў Італію, а ў пачатку XVIII стагоддзя «пахучай вадой» праславіўся Кёльн. Пазней пахучая вадкасць пачала распаўсюджвацца ў краінах Еўропы пад французскай назвай «адэкалон» — вада з Кёльна. Потым з'явіліся і духі.

Класічныя правілы рэкамендуюць **бландзінкам** пахі больш лёгкія, кветкавыя. **Брунеткі** ж могуць аддаць перавагу духам з цяжкім экзатычным пахам. Аднак правілы гэтыя вельмі ўмоўныя — бо колькі людзей, столькі ж і густаў. Як бы там ні было, у кожнай жанчыны павінны быць любімыя духі.

Купіць духі няцяжка — на прылаўках парфумерных магазінаў мноства флаконаў і флакончыкаў. Але трэба яшчэ ўмець правільна карыстацца імі. Вось парады балгарскіх спецыялістаў.

*** Выбіраючы новыя духі, не нюхайце адзін за адным шмат флаконаў, інакш вы хутка не здолееце адрозніць адзін пах ад другога. Таму, пакуль не спыніцеся на чым-небудзь, абмяжуйцеся пробнымі флакончыкамі.**

*** Нельга пераносіць духі на скуру, нядаўна працёртую адэкалонам. Духі і адэкалон несумяшчальныя.**

*** Змачыўшы тканіну ці валасы, не спрабуйце адразу ж зрабіць вывад, ці спадабаецца вам гэты пах. Пачакайце крыху — сапраўдны пах праявіцца толькі хвілін праз пятнаццаць.**

*** Мацней за ўсё пах успрымаецца вясной і летам. Увосень і зімой наш нюх крыху зніжаны. У гэты час года духамі можна карыстацца больш актыўна.**

*** На светлым адзенні духі нярэдка пакідаюць плямы. Памятайце пра гэта і будзьце акуратнымі. А яшчэ лепш прышыць да ўнутранага боку вопраткі кавалачак шарсцяной тканіны — яго і трэба змочваць духамі. Можна павесіць у шафе марлю, змочаную духамі, — гэты пах пяройдзе на адзенне.**

*** Злоўжываць духамі і пахнуць, быццам парфумерны магазін, — прыкмета дрэннага густу.**



## ВАША ЗДАРОЎЕ

### «Я спакойны, зусім спакойны...»

**Але спакойным, пагадзіцеся, сёння быць надзвычай цяжка. Шалёныя цэны, схуднелы кашалёк, пошук хлеба надзённага і бясконцыя чэргі, даўка ў транспарце... А вынік адзін — узвінчаныя нервы, галаўны боль, бяссонніца.**

**Давайце паспрабуем проціпаставіць жыццёвым стрэсам мудрую народную медыцыну. Што яна раіць?**

Прыйшоўшы дамоў, адразу паспрабуйце зняць раздражняльнасць, нервовае ўзбуджэнне. У прынцыпе зрабіць гэта нескладана. Напрыклад, калі ёсць час, прыміце цёплую ванну. Добра дадаць у яе адвар з кветкавага сена (500 г сена завärваюць 3 літрамі кіпню, запарваюць на 15 мінут, працэджваюць і ўліваюць у ванну). Тэмпература вады ў ванне не павінна перавышаць 36—38 градусаў, працягласць яе — 15—20 хвілін.

Можна прыгатаваць ванну з рамонкам. У гэтым выпадку кветкі рамонку заліваюць халоднай вадой і кіпяцяць у шчыльна закрытай пасудзе 10 хвілін. Колькасць кветак: для поўнай ванны — 1/2 кг, для палавіннай — 1/4 кг.

Эфектыўныя ванны з каранямі аера (для поўнай бяруць 1/4 кг, для палавіннай — 1/8 кг), валяр'янай (1/2 кг), лавандавымі кветкамі (100 г), чабаром (200 г).

Дапусцім, з ваннай не атрымліваецца. Нічога страшнага — хуценька заварыце чай на травах. Можна, у прыватнасці, выкарыстаць такі збор: валяр'яна, сардэчнік, мята, святаяннік. Засыпце ў сухі фарфоравы чайнік патрошку кожнай травы і заліце шклянкай крутога кіпню. Праз 20 хвілін працадзіце — чай гатовы.

А яшчэ лепш прыгатаваць настой раней, скажам, раніцай, перад работай. Трэба ўзяць па 3 часткі глогу, сардэчніку, сушаніцы і частку рамонку. Сталовую лыжку здробненай сумесі заварыце шклянкай кіпню. Няхай настаіцца на працягу 8 гадзін, затым працадзіце. Гэты заспакойваючы сродак наогул добра прыняць рэгулярна — па паўшклянкі 3 разы ў дзень праз гадзіну пасля яды. Дарэчы, ён рэкамендуецца і пры захворваннях сэрца.

Здымае нервовае ўзбуджэнне таксама наступная сумесь: плады глогу — 2 часткі, караню валяр'яны — 2 часткі, травы сардэчніку —3 часткі, травы крываўніку — 3 часткі. Заварваем, як звычайна, а вось настойваем 5—6 гадзін. Прымаць па 1/4 шклянкі 4 разы ў дзень за 20—30 хвілін да яды.